# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 48 (1187) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 26 ЛІСТАПАДА 1978 г. ЦАНА 60 гр.




**Па роднай зямлі.** Позняя восень на сенажаці. Фота Я. Целушэцкага.

## БЕРАЖЫЦЕ СТАРЫЯ РЭЧЫ!

На нашых вачах наступаюць у штодзённым побыце і гаспадарцы карэнныя змены. Куды ні глянь — усюды адыходзіць з жыцця старое і яго месца займае новае. Гэты працэс заканамерны, натуральны, і дзякуючы яму ўмовы жыцця новых пакаленняў няспынна паляпшаюцца, іх праца аблягчаецца, расце культурны ўзровень. І добра, што такія змены на лепшае, такі няспынны паступ наперад увесь час паскараецца і паглыбляецца, цалкам змяняючы жыццё, паводзіны і думкі людзей. Але, вядома, усе мы хочам, каб маладое пакаленне ацаніла наш уклад у гэты працэс, ушанавала прыдбанае нашым шматпакутным помыслам і крывавым мазалём, што мы перадаём яму. Да здзяйснення гэтых справядлівых нашых пажаданняў вядзе толькі аднаадзіная дарога — мы самі павінны ўшанаваць усю тую спадчыну, што дасталася нам ад нашых бацькоў, дзядоў, прадзедаў, і гэтым самым даць добры прыклад, узор і навуку для маладога пакалення, для нашых дзяцей, унукаў і праўнукаў.

Паставіўшы новы высокі, светлы і прасторны дом, мы пераносім у яго ўсё навейшае, пакідаем жа ў старой хаце рэчы старыя. Што ж, калі гэтую хату мы не намерваемся развальваць і яна будзе далей служыць як варывенька ці летняя кухня, то няхай усё тое колішняе староцце ў ладзе і сухасці астаецца на ранейшых сваіх месцах. Няхай яно будзе тым адышоўшым учарашнім днём, у які час ад часу і старым і малым варта заглянуць. Калі старую хату прыходзіцца разбіраць, не знішчайма колішніх рэчаў! Давайце адвядзём ім у новай хаце ці ў іншых будынках незаходнае месца, нейкі там куточак сухенькі і чысценькі, і складзем іх там. Не шкадуйма на гэта ні часу, ні працы — нашыя продкі страцілі ў сотні разоў больш часу і намаганняў, каб стварыць гэтыя рэчы. Таму ўшануйма ўсё старэнькае: і жаронцы, і ступку, і калаўротак, і красёнцы, і пачарнелую іконку, і засмоленую сальнічку, і вышчэрблены кадобчык і ўсё-ўсенькае. Калі на старой хаце былі выразныя падстрэшнікі, падаконнікі, навугольнікі і іншыя аздобы, не рубайма іх на дровы, здымем іх асцярожна і закінем кудынебудзь на вышкі. Трэба таксама знайсці прытулак колішняй драўлянай сошцы, плеценаму з саломы ці выдаўбанаму з камля дрэва вулею, вязанай драўлянай баране, возу-жалязняку, драўляным вілам дваянам ці траянам, цэпу, сярпу і ўсяму іншаму, чым нашыя продкі і яшчэ зусім не так даўно мы самі хлеб і да хлеба здабывалі. Мо сын наш ці ўнук, сышоўшы ў спакотны поўдзень з „Урсуса“ ці „Бізона“, затрымае позірк на колішніх рэчах, задумаецца і больш дбайна дагледзіць свае навейшыя і хітрэйшыя машыны?! Як гаспадыні давядзецца рабіць парадкі з рознымі клункамі на падстрэшшы ці ў каморы, у скрыні-сундуку, шафе або камодзе, няхай яна не спяшаецца выкідваць адтуль розную старызну, дзерці яе на шматы да гаршчкоў ці машынаў або аддаваць анучніку за нейкую там крывую шклянку ці некалькі злотых. Асабліва трэба беражліва захоўваць усе самаробныя тканіны і вопратку, якія выткалі і пашылі нашыя матулі, бабулькі, прабабулі. Няхай жа ўсе іхнія саяны, парцякі, фартушкі, пасцілкі, абрусы, ручнікі, дываны ці мужчынская адзежа і бялізна ды іншыя рэчы — чыстыя, гладкія і сухія — пакояцца сабе на дне шуфлядаў у новых шафах ці колішніх маляваных сундуках. Варта ж, каб як найдаўжэй захавалася памяць пра тых, часцей за ўсё ўжо нам невядомых, дбайных і старанлівых працаўніц, што слепнучы пры чадзячай лучыне ці газоўцы па цэлых начах пралі, ткалі, шылі, вышывалі. Мо нашыя дочкі і ўнучкі, пад уплывам гэтых захапляюча прыгожых твораў, захочуць самі рабіць каштоўнейшыя рэчы, скарыстоўваючы колішнія ўзоры і ствараючы на іх падставе кампазіцыі.

Беражыце самі колішнія рэчы і заахвочвайце да гэтага вашых дзяцей, родзічаў, суседзяў, знаёмых. І не спя-

Працяг на стар. 4

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

Надта ж цікавыя сляды пакінула гісторыя на нашай зямельцы! Возьмем хоць бы тую, найдаўжэйшую на Беласточчыне вёску, што цягнецца кіламетраў з пятнаццаць ад самай Дубровы Беластоцкай і аж да палавіны дарогі ў Саколку. Вучоныя мяркуюць, што гэтае бясконцае сяло — вынік славутай „Уставы на валокі“ з 1557 года, якую вельмі паслядоўна правялі па загаду і пад пільным наглядам самой каралевы польскай і вялікай княгіні літоўскай Боны землямеры ў „гаспадарскіх“ маёмасцях Вялікага княства Літоўскага.

## Бярвіха

Параскіданыя ў бязладдзі на захад ад рэчкі Сідры сялянскія паселішчы загадалі яны сцягнуць і паставіць паабапал гасцінца, што ўжо ў той час быў пракладзены ўскрай тадышніх Кузніцкай і Навадворскай пушчаў па градзе надрэчных пагоркаў. Для вёсак выразалі ў адным кавалку тры палеткі слабенькай, а побач пад вялікакняжацкі — „гаспадарскі“ фальварак-подварак — самай лепшай зямлі, лугу, пашы і лесу. Нязгоршая валока прадназначалася тут жа для царквы або касцёла. І так з таго часу сядзяць па надсідранскіх пагорках, з **Асмалоўшчыны** пачынаючы і на **Сякерцы** канчаючы, некалькі частак гэтага сяла-ланцуга. Адна з гэтых частак завецца **Бярвіха.** Таямнічая, дзівосная назва! Але толькі на першы погляд. Аказваецца, якраз праз яе працякае з паўднёвага ўсходу на паўночны ўсход, перасякаючы яе і кіруючыся ў бок рэчкі **Сідры,** пакручастая рачулка **Бярвіха.** Ад назвы рэчкі займела назву і частка сяла. Але гэта, вядома, не выясняе таямніцы назвы, хоць значна аблягчае яе разгадку. А гэта таму, што „бервай“ на беларускіх землях называюць „кладку з бярвенняў ці тоўстых жардзін на гразкім месцы“, а рэчка **Бярвенка** знаходзіцца на суседняй Гродзеншчыне (бярэ свой пачатак каля м. Берпіты). Такім чынам, назва **„Бярвіха“** калісьці абазначала гразкую рэчку з многімі на ёй кладкамі.

І тут настала чарга на наступную загадку. Якраз каля моста цераз гэтую самую Бярвіху, непадалёк дома тутэйшага солтыса **Яўгена Федаровіча,** стаіць кованы ў жалезе прыдарожны крыж, асаджаны ў аграмадным камені з... дзіўным вырэзбленым надпісам! Надпіс на польскай мове, няпоўны, фрагментарны, але ёсць у пачатку выразная дата: 1655 год, далей жа ідуць паасобныя словы: „маскаль“, „літва“, „мур вячысты“ і некалькі іншых, цяжкіх для зразумення. Дзіўна, праўда? Але даволі заглянуць у гісторыю, каб усё высветлілася. Рускія войскі на чале з ваяводам Чаркаскім і ўкраінскія пад кіраўніцтвам атамана Залатарэнкі ў жніўні 1655 года ўзялі Коўна і Гродна. Відаць, іменна тут, на балоцістых берагах Бярвіхі, адбылася адна з іх бітваў. Хоць потым тутэйшыя землі і патанулі ў крывавых падзеях „шведскага патопу“, аднак памяць аб бітве на рацэ Бярвісе не загінула. Помнік з ружовага гранітнага каменя-валуна пачаткова, мабыць, быў пастаўлены на стромкім надрэчным пагорку, які тутэйшыя людзі і па сённяшні дзень завуць „могіл-

Працяг на стар. 4

## ГОСЦІ З БЕЛЛІЦЭЯ

Трэцяга гэтага месяца, будучы на экскурсіі ў Беластоку, рэдакцыю „Нівы“ наведала, сумесна са сваімі настаўнікамі і бацькамі, звыш стоасабовая група вучняў Бельскага белліцэя. Пасля кароткага знаёмства з рэдакцыяй перайшлі ў ГП БГКТ, дзе адбылася сустрэча з журналістамі і працаўнікамі таварыства. Старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік вельмі цікава і падрабязна расказаў пра дзейнасць таварыства, пра формы гэтай дзейнасці. Падзякаваў ліцэістам за іх плённы ўклад у гэту працу і заахвочваў да далейшага супрацоўніцтва. З вялікай увагай прыехаўшыя выслухалі выступленне галоўнага рэдактара „Нівы“ Георгія Валкавыцкага, які пазнаёміў іх з гісторыяй газеты. Паказаў шлях, які мусіць прайсці газета, пакуль паявіцца ў такім выглядзе, у якім атрымоўвае яе чытач. І гэта моцна зацікавіла слухачоў. Задавалі пытанні. Потым, паглядзеўшы выстаўку з нагоды 60 гадавіны БССР, пачалі збірацца. У іх яшчэ было ў плане наведаць музей і пайсці ў тэатр.

(мш)



Фота аўтара

# Якія павінны быць беларускія радыёперадачы?

Дарагая рэдакцыя, пішу да вас не першы раз і так складаецца, што пераважна прапаную змены — палепшанне. Напісаць гэты ліст прымусіў мяне беларускі магазін па радыё з суботы 14.X.78 г. Хачу сказаць, што ўжо даволі доўга ідуць такія малавартасныя радыёперадачы. Што дае слухачам размова з аднаго гаспадарства?.. Па-мойму, нічога. Вучоных доказаў, вопытаў, артыкулаў аб сельскай гаспадарцы маем у газетах мноства. А час радыёперадачы, такой кароткай і на дадатак раз у тыдзень, не павінен быць марнаваны на гэтыя справы. Каб у рэпартажы гаварылі прыгожай беларускай мовай, тады быў бы свой сэнс. Наша грамадскасць, рассеяная па ўсёй Польшчы, магла б паслухаць прыгожую, правільную родную мову. Я разумею, што жыхары Беласточчыны гавораць сваімі многімі гаворкамі, дык гэтым справам у радыёперадачы можна яшчэ выбачыць.

Нельга аднак згадзіцца з фактам, што замест выхоўваць людзей нацыянальна, вучыць іх роднай культуры, мы вучым іх гаспадарыць. Трэба падумаць, ці даходы ў гаспадарцы ў вёсцы Катоўка цікавяць тых, хто жыве ў Беластоку ў М-4? Адразу вядома, што беларускі магазін у наступную суботу будзе слухаць яшчэ менш слухачоў. Па-мойму, у паўднёвым магазіне павінна быць тое, чаго патрабуе кожны, а не толькі вузкі круг людзей.

Здаецца мне, што гэты тыднёвы выхад на антэну павінен прыцягваць слухачоў. Чалавек, які знойдзе ў радыёперадачы нешта для сябе, будзе яе чакаць цэлы тыдзень, верачы, што гэта будзе файнае і што хоча гэта паслухаць.

Па-мойму, радыёперадача наша павінна памагаць выхоўваць нашу беларускую грамадскасць. Можна гэтага дабіцца, перадаючы і паказваючы хараство нацыянальнай культуры, традыцыі, якія нашы продкі захавалі да нашых дзён, а мы павінны захаваць нашым дзецям. А гэту „жывую ваду“ трэба аднекуль чэрпаць. Можна было б тут адказаць: чытайце „Ніву“. Я разумею, „Ніва“ дасканала выконвае сваё заданне, але многа людзей, асабліва сярод маладых, не ведае, або забыла ўжо лічыць, што часопіс гэты ёсць у хаце. Сумны гэта факт, але праўдзівы.

I яшчэ адна справа адносна песень, якія перадаюцца ў беларускай радыёперадачы. Многія ўжо даволі маюць джазу ці блюзу і хацелі б паслухаць нашыя старыя, народныя песні. Як жа часта чуеш іх першы раз! Мы прагна хочам іх слухаць, бо яны прыгожыя, у іх адбіваецца наша жыццё, гісторыя, наш характар. Але не хочам слухаць урыўкаў песень — без пачатку і канца. Я лічу, што ў суботнім беларускім магазіне павінны перадавацца песні поўнасцю, а не такія, уціснутыя сілай у словы рэпартажа. Многія слухачы хацелі б іх мець назаўсёды, запісаць на магнітафонную плёнку.

Дарагая рэдакцыя, калі Віктар Рудчык скажа, што я напісаў тут выдумкі, можна на старонках „Нівы“ адкрыць анкету: „Якой павінна быць беларуская радыёперадача?“

*(Імя і прозвішча да ведама рэдакцыі)*

**Ад рэдакцыі.** Публікуючы поўнасцю ваш ліст, мы запрашаем усіх да дыскусіі на пастаўленае пытанне. Ліст апублікавалі па згодзе рэдактара радыёперадач на беларускай мове В. Рудчыка.




* * *

Землякоў пазнаю па мове,
Меладычнай, як песня жней,
Дзе пяшчота ў кожным слове
Да глыбіняў душы кране,
Па напеве жанчын у свята:

„...У чужым двары ваду бяру...“
I па ветлівасці рук шурпатых...
Землякоў пазнаю па дабру.

**Змітро Марозаў**

## ХРОНІКА

■ 5 XI у Чыжах і Клейніках адбыліся канцэрты калектыву „Арэшкі“ з Арэшкава.

■ 6 XI з нагоды 61 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі ў папраўчым доме і прытулку для непаўналетніх у Беластоку выступіў беластоцкі калектыў „Каласкі“.

■ 9 XI у памяшканні клуба БГКТ у Беластоку адбылося спатканне пенсіянераў і вечар, прысвечаны 61 гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі.

## Наша галерэя

*Графіка „Прамысловая імпрэсія“ Вячаслава Шума.*

*Фота Рыгора Жура*



## Фота-рэтра

Аўтарам гэтага фота з'яўляецца вядомы польскі пісьменнік-дакументаліст Мельхіёр Ванькові́ч. Фота зроблена да вайны ў адным з заходнебеларускіх гарадоў і аўтар уключыў яго ў свой цыкл „Крэсы“. Гэты цыкл набылі мы ў пісьменніка ў шасцідзесятых гадах. На жаль, былі гэта толькі фотаплёнкі, дакладнай дакументацыі не захавалася. Лічым, што дакладнейшыя подпісы да гэтых здымкаў дапамогуць зрабіць нам чытачы.

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. СТАДЫІ Ў ЖЫЦЦІ ЧАЛАВЕКА.**

# ХРЫСЦІНЫ

Дзяцей хрысцілі пераважна ў суботу або нядзелю праз тыдзень або два ад нараджэння. Здараюцца выпадкі, што хрысцяць і адразу пасля нараджэння, але гэта тады, калі дзіця хворае і пагражае яму смерць. У хрысціннай застольнай урачыстасці прымаюць удзел толькі замужнія і жанатыя. Не абавязвала гэта кумоў, пры выбары якіх кіраваліся пераважна або матэрыяльнымі справамі, або забабонным вераваннем. На некалькі дзён перад хрысцінамі бацька дзіцяці пачынаў запрашаць гасцей — сваякоў, суседзяў і, як правіла, тых, якія прымалі ўдзел у адведках. На хрысціны ўсе яны ішлі з сваім. Мужчыны неслі па бутэльцы гарэлкі, жанчыны ішлі з ежай (пераважна быў гэта пірог) а тыя, што не былі ў адведках, неслі падарункі дзіцяці. Абавязкам кумы было падрыхтаванне дзіцяці вопраткі на хрэст. Апрача гэтага, рыхтавала яна „кашу“. „Каша“ складалася з цукеркаў і пранікаў. Магчыма, што некалі была гэта сапраўдная каша, на што намякае сама назва. Абавязкам кума было адвезці ў царкву і ўладкаваць матэрыяльныя справы, звязаныя з хрышчэннем.

Настаў дзень хрысцін. Збіраюцца госці. Кума пачынае апранаць дзіця. Раней рабіла гэта бабка-павітуха. У час апранання ў некаторых ваколіцах, пераважна бліжэй гарадоў, запрошаныя госці падыходзяць і кладуць у дзіцячы бэцік грошы, з якімі дзіця едзе да хрэсту. Сімвалізуе гэта яго будучы матэрыяльны дабрабыт.

Дзіця падрыхтавана. Час ехаць у царкву. I тут ёсць некалькі перасцярог. Абсалютна нельга нікога па дарозе падвозіць. Адганялі таксама малых, якія бегалі па вуліцы, каб не чапляліся на фуру. Бытуе перакананне, што калі б некага падвезці, дык дзіця будзе мець цяжкасці з хаджэннем, будзе слабое на ногі. Наступная справа — не вяртацца назад з няхрышчаным дзіцём. Здараецца гэтакае рэдка, бо наогул святара папярэджваюць аб тым, што прывязуць дзіця да хрэсту, але бывае і так, што ён аб нічым не ведае. „А в нас быв такі выпадок, — гаворыць адна інфарматарка з ваколіц Бельска. — Давно вжэ то было. Зіма была, помэтаю. Снізг мэтэ. Батюшкі нэ попэрэділі, бо нэ думалі, што дэ выйідэ. Пойехалі. I нэма, і нэма. Всіэ ждут. Тут вжэ і вэчорыэе, а іх нэма. А батюшка одслужыв службу і пойехав до міэста до дочкі. Давай наказуваті, коб прыйіжджав. То дэсь пуозно в ночы вэрнуліся“. Чаму нельга вяртацца з няхрышчаным дзіцём, высніць дакладна не ўдалося. Заўсёды адказвалі, што грэх. Бяду прадказвала і тое, калі ў дзень хрышчэння ў царкву прывезлі пакойніка. Спалучалі гэта са смерцю дзіцяці.

Дзіця ў час хрышчэння трымае ў асноўным кума. Толькі пад канец абраду надавання імя бацюшка перадае малое куму. Ёсць крышку розніцы ў цырымоніі хрышчэння, калі рэч ідзе пра пол дзіцяці. Калі хлопец, дык бацюшка ўносіць яго за царскія дзверы, калі дзяўчынка — толькі да іх даносіць. Гэта вынікае з таго, што жанчынам за царскія дзверы ўваходзіць нельга. Вярнуўшыся дамоў, першае, аб чым пытаюць кумоў, дык гэта імя дзіцяці. Найчасцей адказваюць: Тіхоунь або Соня. А

(Працяг на стар. 5)




**ЦЯЖКА ЦЯПЕР МУЖЧЫНАМ**

# ВУЧОБА

Надышоў школьны перыяд. Ну, трымайцеся, бабы. Тут-та мы вам пакажам, што значыць мужчына. Але праходзіць час, і аказваецца, што дудкі, не пакажам. Амаль усе перадавыя месцы і ў класе і ў школе, і ў школьных арганізацыях займаюць яны, дзяўчаты. А як не займаць, калі яўна ўсе на іх баку — ад прыбіральшчыцы да дырэктара. Хто, напрыклад, паверыць хлопцу, што ён не можа сёння адказаць урока, бо яму баліць галава, зуб ці што там іншае?.. А ёй паверыць!

Другі прыклад. Педсавет рашыў зрабіць нагонку на курыльшчыкаў. Хлопца абшчупаюць дэтальна. Вывернуць не толькі кішэні, а, здаецца, нават і душу, хаця ён курыць даволі нерэгулярна і толькі „спорты“. Да дзяўчыны ж і не дакрануцца, хаця яна курыць і больш рэгулярна і да таго „Кармэны“.

Або ці настаўнік пацягне яе за вуха, як цябе, ці ўказкай хлысне па спіне? Не гавару ўжо пра тое, што ўсюды ёй уступі, дапамажы, першую прапусці, улюбёнымі славечкамі пры ёй не карыстайся. А прыгляньцеся бліжэй нашым школам, вузам, розным установам! Яны ж амаль усе феміністычныя. Нават і ў такіх, якія калісь былі аазісамі мужчынскага полу, як міліцэйскія і вайсковыя школы і службы, цяпер вы сустрэнеце, і не так ужо рэдка, спаднічкі. Так, так, спаднічкі. Там, дзе яны павінны насіць спадніцы: дома, на вуліцы, у школе, на танцах і г.д., носяць нагавіцы, а там, дзе павага месца і прафесіі патрабуе нагавіц, каб падкрэсліць сваё жаночае я, носяць спадніцы. Таго і глядзі, што дойдзе да таго, як было ў школе даў, дзе розныя вайсковыя часці толькі і розніліся паміж сабой тым, што палкавой спадніцай. І гэта яшчэ не ўсё. Яны нават мелі адвагу ў космас прарвацца. Ці не завысока часам, вы, спаднічнае стварэнне?! А найгоршае гэта тое, што займаючы такія, раней выключна мужчынскія пасады, спраўляюцца на іх не горш за нас, мужчын, а часценька нават і лепш. Ці ж не крыўдна, ці ж гэта справядліва і ці так калісь было? Што пра гэта судачыць... Жанчыны пераваярнулі дагары нагамі абсалютна ўсё. Праз іх нават народная мудрасць, якая, як ведаем, з'яўляецца найбольшай мудрасцю, перастае быць мудрасцю. Бо што ж, напрыклад, асталося з папулярнай народнай пагаворкі „волас доўгі — розум кароткі“, якая многія ранейшыя стагоддзі так праўдзіва і прыгожа характарызавала жанчын. А дзе ж вы цяпер убачыце жанчыну з доўгімі валасамі, а слабым розумам?! Гаворачы мовай матэматыкі, наступіла адваротна прапарцыянальная залежнасць: валасы сталі паступова скарачацца, а розум аўтаматычна падаўжацца. Аж страх падумаць, якое прызначэнне можа мець гэтая пагаворка ў наш час і наступныя стагоддзі, гледзячы, як сучасныя модныя мужчыны сталі інтэнсіўна адрошчваць свае шавялюры.

**Піліп Саскі**

 

(Працяг са стар. 1)

# БЯРВІХА

кі“. Пагорак спакон веку лічыўся зямлёй „нічыйнай“. Сяляне, капаючы ямы на бульбу, знаходзілі там чалавечыя косці і лічылі, што гэта астанкі людзей, памершых у часе нейкага „паморку“ На самай жа справе на „могілках“ спачылі перш за ўсё воіны, паўшыя ў бітве 1655 года, і на іх брацкай магіле быў потым пастаўлены гэты помнік. Пасля, па нейкіх невядомых прычынах, яго перацягнулі бліжэй да дарогі, паставілі бокам, устанавілі на ім жалезны крыж. Народ жа спавіў яго легендай. У ёй гаворыцца, што быццам бы некалі праязджала сюдою **каралева літоўская (!)**, стала тут на адпачынак і ў гэты гонар загадала ўкапаць камень і вырэзбіць на ім надпіс. Вядома, такія легенды не паўстаюць на пустым месцы, але водгулле якіх гістарычных падзей і народных вераванняў скрываецца ў гэтым народным сказе, я ўжо не буду прабаваць разгадваць хаця б па той простай прычыне, што не мала таямніц скрываецца і ў назвах палеткаў навокал Бярвіхі: Гай, Ганцоўшчына, Грыбуцёўшчына, Доўгі Луг, Кубельніца, Сцёк, Чырвонка, пагоркаў Пагорская Гара, рэчкі Патрубоўшчыны — на раскрыванне іх проста мала аднаго артыкула.

Тым больш, што варта прыгадаць і ўспаміны старэйшых сярод цяперашніх насельніцтваў Бярвіхі — **Бабічаў, Баўтручукоў, Ваяводскіх, Гарасімаў, Грыгорчукаў, Кашубаў, Крысюкаў, Кузьмаў, Лісоўскіх, Матышчукаў, Медзялоўскіх, Мейлукаў, Палэйкаў, Палубінскіх, Паважаў, Сугакоў, Федаровічаў, Янчарукоў, Яроцкіх** — пра колішняе тут жыццё-быццё. Да настання народнай улады было яно вельмі цяжкае. Зямлі ў сялян было надта мала, пражыць з уласнага загона ніхто не здолеў. Таму ўвесь час, хто толькі ад зямлі адрос, парабкавалі ў панскіх маёнтках, што густа расселіся па наваколлі. Нярэдка жанчыны капалі ўвесь дзень бульбу ў пана за 50 грошай, за якія можна было купіць пуд бульбы. Сяляне лічылі вялікім шчасцем, калі ім удавалася здабыць кавалачак панскай зямлі і абрабляць яго „напалавіну“, гэта значыць, аддаваць за арэнду зямлі ці луга палавіну збору збожжа ці сена. Пераважна ж прыходзілася браць на „трацяк“ або і на „чацвярык“, пакідаючы сабе толькі трэцюю або чацвёртую частку збору. І не дзіва, што і самыя вялікія сямейныя ўрачыстасці тады былі надта бедныя. Перад вяселлем на паненскі і кавалерскі вечар, якія тут завуцца „кветкай“, збіралася моладзь з усяго сяла, віла вянкі маладой ці маладому, рыхтавала ўпрыгожванні ў вясельную хату, на вазы ці сані, спявала песні, між іншым, і такую:

*Пайду да каморы, перасыплю*
*гарэшкі —*
*дзе ж падзеліся, дзе падзеліся*
*ўсе дзявочыя (кавалерскія) смешкі?*

Маладая ці малады давалі скромны пачастунак і музыканта, каб моладзь магла сабе „пагуляць“ да світання. А наступнай раніцай збіралі з усяго сяла найлепшых коней, вупраж, вазы ці сані, каб везці маладых да вянца. Праводзіць і сустракаць маладую пару выходзіла ўся вёска. Маладыя імчаліся на абвешаных званочкамі, кветкамі, стужкамі павозках і шчодра сыпалі ў натоўп спечаныя з пшанічнай мукі „качкі“. Музыканты „рэзалі“ марша, храплі ды вішчэлі коні, папісквалі дружкі-дзяўчаты, звонка рагаталі дружбанты... Хоць і беднае, але надта ж красачнае было тое колішняе вяселле!..



*Гэты прыдарожны крыж асаджаны ў каменны помнік у гонар падзей 1655 года над рэчкай Бярвіхай.*

Сёння над Бярвіхаю зрэдку толькі пачуеш звонкі дзявочы ці юнацкі голас. Моладзь, атрымаўшы вышэйшую адукацыю, як напрыклад, інжынер-аграном **Рамуальд Ваяводскі** ці інжынер-будаўнік **Часлаў Медзялоўскі** і дзесяткі тых, што закончылі сярэднія школы, назаўсёды пакінула родную мясціну. Тыя, хто астаўся ў роднай хаце, у ёй усяго толькі госцьмі: вечарам прыязджаюць, а раніцай выязджаюць з яе на работу ў ПГР Макаўляны, мяшальню кармоў у Сідры, фабрыку будаўнічай сталяркі ў Саколцы, перагрузачную станцыю ў Генюшах. Нават солтыс — малады і энергічны тэхнік-будаўнік — працуе кіраўніком на будове аграмаднай свінафермы ў ПГРы ў Макаўлянах. Але ёсць і ўлюбёныя ў сваю зямельку, у родны бацькоўскі загон, такія як **Адольф Кузьма** — дасканалы гадоўца быдла і свіней, добры гаспадар на полі, звітны механік. Але ўсё ж такіх тут нямнога. А ў новую прасторную і светлую школу, што высіцца якраз на пагорку „могілкі“ ходзіць усяго невялічкая жменька дзетак.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 1)

# БЕРАЖЫЦЕ СТАРЫЯ РЭЧЫ!

шайцеся пазбаўляцца спадчыны па продках! Няхай вас не спакусяць тыя сто, дзвесце ці нават пяцьсот злотых, што будзе даваць за тую ці іншую старую рэч які-небудзь прыезджы пакупнік. Гэтыя некалькі соцень злотых вас не ўзбагацяць, а за іх вы можаце страціць для сябе і будучых пакаленняў нешта надзвычай каштоўнае. Апошнім часам надта ж многа таўчэцца па нашых вёсках і мястэчках рознай масці „вучоных“, „этнографаў“, „працаўнікоў музеяў“ і іншых спецыялістаў-самазванцаў, якія аказваюцца звычайнымі гандлярамі, прайдзісветамі, ашуканцамі. Яны задарма ці за марны грош выцыганьваюць ад даверлівых людзей прадметы надзвычайнай вартасці для нашай культуры і гісторыі. Дадайма і тое, што пакуль пануе ў нас мода „рэтра“, то ўсе гэтыя здабытыя імі лампадкі, ступкі, ручнікі красуюцца на самых ганаровых месцах у пышна мэбляваных гарадскіх кватэрах ці стылёвых прыгарадных дачах, але калі праміне гэтая мода, тады ўсе гэтыя каштоўнасці павандруюць простай дарогай на звычайны сметнік. Таму сцеражыце іх ад такіх фальшывых, сезонных „любіцеляў старыны і народнасці“.

Нехта заўважыць: ці аўтар гэтага артыкула часам не хочаператварыць нашыя памяшканні, дамы, свіронкі, хлявы, клуні і іншыя будынкі ў музеі, скансены, кладоўкі рознай старызны? Не, не хоча! Не хоча па вельмі простай прычыне — старых рэчаў захавалася ў нас зусім мала, кожная наша сям'я іх можа лёгка памясціць на дне сундука ці шафы, на падстрэшшы хаты ці на вышках у свіронку і нікому ні ў чым яны замінаць не будуць. А тым часам цяпер газеты, радыё і тэлевізія ўсё часцей паведамляюць, што ў розных баках нашай краіны гурткі вясковых гаспадыняў, колы вясковай і мястэчковай моладзі, настаўнікі і бацькоўскія камітэты розных школ і іншыя арганізацыі ўсё больш у вёсках і мястэчках грамадскім чынам засноўваюць і абсталёўваюць рэгіянальныя мясцовыя музеі ў апусцелых хатах, ветраках, вадзяных млынах, школьных будынках, цэлых сялянскіх сялібах. І ёсць падставы спадзявацца, што гэты здаровы і надта карысны грамадскі рух з бегам часу пашырыцца і на Беласточчыне. Вось якраз да самага актыўнага ўдзелу ў гэтай вельмі патрэбнай для нашага рэгіёна справе і заклікае ўсіх аўтар гэтага артыкула.

**Мікалай Гайдук**

# ГМІННЫЯ НАВІНЫ

## НОВЫЯ ПАЧАКАЛЬНІ

На прыпынках аўтобусаў ПКС Рагазы і Анцуты (абодва ў Нараўскай гміне) пабудаваны новыя пачакальні. Раней іх тут не было ніколі. Зараз яны — вялікая выгада для ўсіх, хто падаецца ў падарожжа аўтобусамі ПКС.

## ПАТРЭБНЫ ЎКАЗАЛЬНІКІ

Ёсць такая лінія, па якой ездзяць аўтобусы ПКС з Беластока ў Гайнаўку і з Гайнаўкі ў Беласток праз Нараўку, Ляўкова, Ляшукі, Міхалова. Ля скрыжаванняў дарог у спамянутых вёсках няма аднак указальных знакаў, як ехаць, каб трапіць у Беласток. А яны павінны быць.

**(яц)**



**Дарожныя партрэты.** Янка Харкевіч з Ляшукоў і яго сяброўкі. Як у славутай песні „Тры дзярэўні, два сяла, восем дзевак (адна спазнілася), адзін я.
Фота В. Рудчыка.

З НАВІНАК САВЕЦКАЙ НАВУКІ

# ЖЫВАЯ ВАДА

Калі яны разам, гутарку весці з імі складана. Варта на імгненне страціць увагу, выпусціць з віду іх перамяшчэнні па пакоі, і ўжо не ведаеш, хто з іх Вадзім Зеляпухін, дацэнт Казахскага сельскагаспадарчага інстытута, а хто яго брат-блізнюк Ігар, старшы навуковы супрацоўнік Казахскага інстытута пладаводства і вінаградарства...

Падобныя яны не толькі знешне. Іх навуковыя інтарэсы таксама супадаюць. Закончылі факультэт лясной гаспадаркі, у аспірантуры працавалі над праблемамі воднага рэжыму раслін. Таму няма нічога дзіўнага, што і вынаходства сваё зрабілі ўдваіх.

## ПАЦВЕРДЖАНА ПРАКТЫКАЙ

Вадзім налівае ў колбу звычайную водаправодную ваду і ставіць яе на агонь. Вадкасць закіпае, ён здымае яе з пліты, накрывае накрыўкай, хутка ахалоджвае пад халодным струменем, а затым асцярожна, каб не скалануць, перадае брату:ператварэнне адбылося.

Не ведаючы сутнасці справы, цяжка ўявіць, што вада, якая знаходзіцца ў колбе, толькі згатаваная і хутка ахалоджаная, набывае амаль чароўныя ўласцівасці: стымулюе жыццёвыя працэсы арганізмаў раслін, жывёлы, чалавека...

— У мінулым годзе, — расказвае Вадзім, — мы апрацавалі такой вадой насенне бавоўны: яго заўсёды перад сяўбой замочваюць. Восенню на доследных дзялянках ураджай бавоўны быў на 10-12 працэнтаў вышэй, чым у сярэднім па гаспадарцы. Пры гэтым больш высокай аказалася якасць валакна. Доследныя расліны ў працэсе развіцця па ўсіх фізіялагічных паказчыках пераўзыходзілі кантрольныя. У іх лепш назапашваўся хларафіл у лістах, больш аптымальнымі былі паказчыкі воднага абмену....

Перш чым браты Зеляпухіны пачалі рэкамендаваць біялагічна актыўную ваду для практычнага прымянення ў сельскай гаспадарцы, яны правялі не адзін дзесятак падобных эксперыментаў. І самыя розныя культуры (таматы, бульба, кукуруза, пшаніца), насенне якіх замочвалася ў гэтай вадзе, давалі яўную прыбаўку ва ўраджаі. Найбольш „чулымі“ на стымуляцыю аказаліся цукровыя буракі: вага караняплодаў павялічвалася да 40 працэнтаў, цукрыстасць павышалася на паўтара працэнта.

## І ВЫПАДАК МОЖА ДАПАМАГЧЫ

Браты Зеляпухіны праводзілі серыю доследаў на хуткасць паглынання лістамі раслін розных мадыфікацый вады — расталай, звычайнай водаправоднай, згатаванай. Лісты раслін узважваліся на дакладных вагах, затым апускаліся ў шклянкі з вадой. Праз гадзіну іх даставалі з вады, хутка прасушвалі і ўзважвалі зноў. Прыбаўка ў вазе давала патрэбную інфармацыю. Выходзіла, што лепш за ўсё лісты паглыналі расталую ваду, горш — звычайную і зусім дрэнна — згатаваную...

Здольнасць снегавой вады стымуляваць біяпрацэсы вядома даўно. Тэорыя растлумачвала гэты эфект асаблівай структурай расталай вады, тым, што ў ёй яшчэ захоўваецца павышаная ўпарадкаванасць малекул, уласцівая ёй у цвёрдым стане. У звычайнай вадзе малекулы размешчаны больш хаатычна, і таму, маўляў, такая вадкасць засвойваецца жывымі клеткамі горш. І зусім дрэнна асімілiруе жывы арганізм згатаваную ваду, пазбаўленую ўсякай упарадкаванасці...

Аднойчы Вадзім незнарок скінуў некалькі біксаў са згатаванай вадой. Каб не прападала серыя доследаў, ён прыгатаваў вар і хутка ахаладзіў яго пад кранам да прынятых умовамі эксперыменту 20 градусаў. Вось тут і адбылося нечаканае. Біялагічная актыўнасць „новай“ — згатаванай і хутка ахаладжанай — вады аказалася ў 5-6 разоў вышэй, чым звычайнай, і ў 2-3 разы вышэй, чым снегавой.

Эксперымент паўтарылі. Вынікі — тыя ж. Згатаваная і хутка ахаладжаная вада наперакор усяму праяўляла найбольшую актыўнасць.

## ШТО АДБЫЛОСЯ З ВАДОЙ?

Выяўленая Зеляпухінымі з'ява супярэчыла структурнай тэорыі. Трэба было шукаць іншую прычыну для растлумачэння актыўнасці пазбаўлення ўпарадкаванай структуры згатаванай вады.

Сотні эксперыментаў правялі вучоныя і прыйшлі да парадаксальнага вываду: біялагічная актыўнасць згатава-



 

 




# Купрыян Зінчук

Перадавым гаспадаром у Кляшчэлеўскай гміне з'яўляецца Купрыян Зінчук, жыхар вёскі Палічна. Ніхто з мясцовых сялян не прадае столькі мяса як ён. Вядзе ён 18-гектаровую гаспадарку. Гадуе 7 штук быдла, у тым ліку 3 дойныя каровы, ад якіх прадае на прыёмным пункце 7–8 тысяч літраў малака ў год.

Сёлета палічнаўскі земляроб прадаў дзяржаве 3 штукі быдла, у тым ліку бугая вагою ў 450 кілаграмаў, 4 вепрукі, 1 тону жыта і 2 тоны бульбы. Яшчэ дзве тоны бульбы прадасць навесну. У 1976 годзе прадаў ён на пункце скупкі 7 тон бульбы.

Працалюбівы гаспадар мае трактар і падвясны інвентар. У працы дапамагае яму сын Уладзіслаў, які каля 10 гадоў працуе трактарыстам у мясцовым філіяле кляшчэлеўскага СКР.

Купрыян Зінчук за свае прадукцыйныя поспехі ў сельскай гаспадарцы, а перш за ўсё ў жывёлагадоўлі ўзнагароджаны дыпломамі ад імя ваяводскіх і гмінных улад.

Тэкст і фота **Я. Целушэцкага**



# Навучанне беларускай мовы ў 1978/79 годзе

**(статыстычная даведка)**

Паводле даных Беластоцкай куратарыі асветы і выхавання, у бягучым 1978/79 школьным годзе беларуская мова навучаецца ў 46 пачатковых школах у параўнанні з 53 школамі ў папярэднім годзе. Пры гэтым навучанне беларускай мове спынілася толькі ў адной залукаўскай школе Гарадоцкай гміны, а малалікія школы ў Галадах, Катлах, Кнаразах, Кожыне, Крывой і Рыгораўцах былі або ліквідаваны, або ператвораны ў філіяльныя.

Колькасць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову ў пачатковых школах, складае ў 1978/79 годзе 3741 у параўнанні з 3979 у папярэднім годзе. Гэтае змяншэнне (— 6,0%) было ў пэўнай меры абумоўлена актуальнымі дэмаграфічнымі тэндэнцыямі ў Беластоцкім ваяводстве.[1]) Нязначна змянілася (— 3,8%). колькасць навучэнцаў беларускіх агульнаадукацыйных ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы, якая ў бягучым школьным годзе складае 708.

Навучанне беларускай мове ў пачатковых і сярэдніх школах ажыццяўляецца на тэрыторыі двух гарадоў і 15 гмін.

Ніжэй прыводзяцца даныя, якія паказваюць абсяг навучання ў паасобных гарадах і гмінах Беластоцкага ваяводства:

[1]) гл. „Ніва“ № 49, 4.12.1977 г.

| | 1977/78 школ | 1977/78 вучняў | 1978/79 школ | 1978/79 вучняў |
|---|---|---|---|---|
| Ліцэі разам | 2 | 736 | 2 | 708 |
| Бельск | 1 | 468 | 1 | 453 |
| Гайнаўка | 1 | 268 | 1 | 255 |
| Пачатковыя школы | 53 | 3979 | 46 | 3741 |
| Бельск | 1 | 450 | 1 | 435 |
| Гайнаўка | 1 | 129 | 1 | 137 |
| гміны: | | | | |
| Арлянская | 6 | 417 | 4 | 376 |
| Белавежская | 1 | 17 | 1 | 12 |
| Бельская | 12 | 508 | 8 | 484 |
| Боцькаўская | 1 | 39 | 1 | 43 |
| Вышкаўская | 1 | 11 | 1 | 8 |
| Гайнаўская | 6 | 586 | 6 | 547 |
| Гарадоцкая | 2 | 69 | 1 | 51 |
| Дубіцкая | 3 | 238 | 3 | 234 |
| Заблудаўская | 1 | 73 | 1 | 74 |
| Кляшчэльская | 3 | 88 | 3 | 86 |
| Мілейчыцкая | 1 | 11 | 1 | 6 |
| Нараўкаўская | 4 | 365 | 4 | 353 |
| Нараўская | 6 | 376 | 6 | 337 |
| Нурэцкая | 1 | 26 | 1 | 26 |
| Чыжаўская | 3 | 576 | 3 | 532 |

(тур)

...най вады растлумачваецца нізкім узроўнем утрымання ў ёй газаў. Пры награванні вадкасць па законах фізікі дэгазіруецца і ў выпадку хуткага ахаладжэння не паспявае зноў насыціцца газамі. Патрэбен час, каб яна прыйшла ў стан раўнавагі.

Дэгазіраваць ваду не абавязкова, вядома, гатаваннем. Браты Зеляпухіны атрымлівалі газ з вады і пры дапамозе шпрыца-сатуратара. Вада набывала тыя ж стымулюючыя ўласцівасці. Праз дзве гадзіны, кантактуючы з атмасферай, яна напалавіну траціла актыўнасць. Але калі яе захоўвалі ў закрытым посудзе, стымулюючая сіла захоўвалася доўга.

Так стала зразумелай прычына біялагічнай актыўнасці і расталай вады. Замарожванне таксама дэгазіруе вадкасць, хоць і ў меншай меры. У такой жа ступені выражана і яе біяактыўнасць.

Па сваіх фізіка-хімічных уласцівасцях дэгазіраваная вада адрозніваецца ад звычайнай. У яе істотна змяняецца электраправоднасць, павялічваецца шчыльнасць, вязкасць, павярхоўнае нацяжэнне, энергія міжмалекулярнага ўзаемадзеяння і ўнутранага ціску. Такая вада, як высветлілі браты Зеляпухіны, характарызуецца вялікім запасам патэнцыяльнай энергіі. Па фізіка-хімічных параметрах яна падобна вадкаму асяроддзю біялагічных аб'ектаў, што, на іх думку, і растлумачвае яе актывізуючую сілу.

### ПОШУКІ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

А як уплывае „жывая вада“ на жывёлін?

Даных аб гэтым у Зеляпухіных пакуль нямнога. У казахскім філіяле Інстытута харчавання Акадэміі медыцынскіх навук СССР яны правялі толькі некалькі эксперыментаў.

Далейшыя доследы вучоныя плануюць правесці на сельскагаспадарчай жывёле. Як тут будзе паводзіць сябе дэгазіраваная вада, меркаваць няцяжка. Ёсць даныя, калі ў якасці біястымулятара прымянялася расталая вада. Сібірскія вучоныя праводзілі такія доследы і атрымалі станоўчыя вынікі.

Відаць, гэта „жывая вада“ патрэбна і медыкам. Расталая ж і амагнічаная, якія маюць меншую біяактыўнасць, паспяхова прымяняюцца пры лячэнні некаторых захворванняў сасудаў, нырак, дыхальных шляхоў.

Шырокаму выкарыстанню дэгазіраванай вады павінна садзейнічаць і прастата яе атрымання. Асаблівага абсталявання для гэтага не трэба. Патрэбна хоць бы перасоўная ўстаноўка для пастэрызацыі малака, дзе яно награваецца, а затым у спецыяльным радыятары хутка ахалоджваецца. Іменна гэта неабходна для вытворчасці „жывой вады“.

**Э. Крывабокаў (АДН).**

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

**ВЯСЕЛЬНАЯ**




*Ой, нэма, нэма нашэй Валі вдома,*
*ой, нэма, нэма нашэй Валі вдома,*
*пошла Валюня да Пана Бога,*
*пошла Валюня до Пана Бога*
*просыты матёнкі на вэсэлечко,*
*просыты матёнкі на вэсэлечко:*
*— Матёнка рідна, прошу на вэсэлье,*
*матёнка рідна, прошу на вэсэлье.*
*— Дітетко мое, вэсэліся самэ,*
*Дітетко мое, вэсэліся самэ,*
*до тэбэ ны пойду, бо вжэ я ны зайду,*
*до тэбэ ны пойду, бо вжэ я ны зайду.*

*Вжэ ж мое очы под трома замкамы,*
*вжэ ж мое очы под трома замкамы.*
*Пэршы замочок — соснова трынка,*
*пэршы замочок — соснова трынка,*
*другі замочок — рыжы пэсочок,*
*другі замочок — рыжы пэсочок,*
*трэті замочок — трава-мурава,*
*трэті замочок — трава-мурава.*
*Трава-мурава аж вылегае —*
*наша Валюня з жалю помырае,*
*наша Валюня з жалю помырае.*

Ад Аляксандры Мартынюк, 1904 года нараджэння, вёска Баброўка гміны Мілейчыцы, запісаў улетку 1978 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

# ЛЕГЕНДА

Пагаворваюць людзі ў нашай старане, што калісьці, калі Дубічы Царкоўныя былі заснаваны, пабудавана была і царква, кіламетр ад вёскі на паўднёвы ўсход, каля ўрочышча „Бахматы“ на ўзгорку. Блізка працякае рэчка Арлянка, а побач праходзіць гасцінец, які спалучае Бельск-Падляшскі — Орлю з Каменцам, таму яго і па сённяшні дзень называюць камянецкім. Каля гэтай мясцовасці зараз жа знаходзяцца і Чэхі Арлянскія. Мо таму царкву паставілі паміж Дубічамі і Чэхамі Арлянскімі, каб зручна было адным і другім сюды прыходзіць. Стаяла і карчма калісьці. Царква называлася „Пятра і Паўла“ і запісана гэта было ў хроніках, якія перахоўваліся да 1941 года.

Невядома, па якой прычыне і калі старая царква згарэла. Потым пабудавалі новую ў Дубічах Царкоўных, у другім канцы ад Тафілаўцаў, у зручным і жывапісным месцы, дзе і сёння яна стаіць. Але гэта ўжо трэцяя па чарзе царква. Тую, другую, у чэрвені 1941 года спалілі немцы. Называлася яна, як і сённяшняя, „Пакроўская“. Многа ёсць старэйшых людзей, якія кажуць, што тая царква „Пятра і Паўла“, што стаяла каля Бахматоў, зусім не згарэла, а ўступілася (правалілася) ў зямлю. Парафіяльная знаць, відаць, саграшыла.

Цяпер яшчэ símавват, раз у год, на свята Пятра і Паўла хопіць прылажыць вуха да зямлі на ўзгорку, дзе калісьці стаяла царквушка, каб пачуць калакольныя званы з той царквы ў нетрах зямлі.

Лічу, што гэта прыгожая легенда, і хачу яшчэ дадаць, што на ўзгорку каля Бахматоў і сёння стаіць каменны крыж — цікавы помнік. Нават нешта на ім напісана, ды так невыразна, што ніхто не можа прачытаць. Ніхто не памятае, калі і хто паставіў гэты крыж.

**М. Панфілюк**



(Працяг са стар. 3)

# ХРЫСЦІНЫ

...гэта таму, каб дзіця было ціхае і добра спала.

Распачынаецца застольнае гасцяванне. Кумы сядаюць разам, пераважна ў кутку пад абразамі. Падвыпіўшы, пачынаюць спяваць. Песні рознага характару. Усе пахвальныя з узнёслым настроем былі накіраваны да маці і дзіцяці. Падкрэсліваліся высакародныя рысы характару маці, якія, несумненна, пяройдуць на дзіця. Ідэалізавалі розум дзіцяці. Дзіця было ў іх заўсёды вялікае, разумнае, галасістае. Песні, прысвечаныя бацьку, гэтакай ідэалізацыі не мелі. Ёсць тут і пахвала, але і ёсць гумарыстычныя адценні. Нярэдка называюць яго „добрым майстрам“. Найбольш аднароднымі былі песні, прысвечаныя бабцы-акушэрцы. Ад пачатку да канца падкрэслівалася ў іх яе роля ў прыманні дзіцяці. Самымі гумарыстычнымі і найбольш іранічнымі былі песні, прысвечаныя кумам. Кум і кума прадстаўлены ў песнях сатырычна. Надзяляюць іх рознымі грахамі, пачынаючы ад п'янства, а канчаючы на схільнасцях да палавога збліжэння. Можа для прыкладу дзве песні, запісаныя на Бельшчыне:

*„Одна кума лёдом,*
*А друга городом,*
*Як зышліся — напіліся*
*Горыэлочкі з мёдом.“*

*„Прышов кум до кумы,*
*Кума грэчку поле.*
*Добрэ, кумэ, што прышов,*
*Муой пушов у поле.“*

Цэнтральным у застольным гасцяванні з'яўляецца „каша“. У пэўны момант адна з жанчын пачынае спяваць:

*„Ой чыя то дыра нэ городжона,*
*Срэбром-золотом нэ обложона?*
*Трэба тую дыру загородіті,*
*Срэбром-золотом той обложыті.“*

Выкліканы кладзе грошы, атрымоўваючы за гэта кашу, гэта значыць частку тых цукерак ці пранікаў, якія падрыхтавала кума. Хрысціны трываюць доўга. Разыходзяцца позна ўначы. На гэтым аднак хрысцінная абраднасць не канчаецца. Праз тыдзень, у нядзелю, сходзяцца на так званыя „зборыэ“. Сходзяцца самі, без запрашэння. Нічым спецыяльным яны не выдзяляюцца. Сходзяцца проста пагасцяваць. І таму на „зборах“ затрымоўвацца не будзем.

**Янка Леанчук, Міхась Шаховіч**



 

# НЕБЯСПЕЧНАЕ ПАДАБЕНСТВА

Днямі пераехаў у гэты горад, а ўжо мяне пазнаюць.

— Хведар Рыгоравіч, — ловіць на праспекце зусім незнаёмая кабета і таямніча шэпча: — Калі за дываном прыйсці? Задатак узялі ж...

— Нічога не ведаю. Я не Хведар Рыгоравіч. Выбачайце, спяшаюся.

Але мяне зноў і зноў атакуюць незнаёмыя людзі.

Аказваецца, гэты прайдоха Хведар Рыгоравіч працуе загадчыкам нейкай базы. Небяспечнае падабенства!

Тэрмінова адпушчу вусы.

Не даюць праходу!

— Іван Карпавіч, — па пятках за мной ходзяць, — калі запчасткі дасцё? Грошы дык загадзя ўзялі...

Збрыў вусы, адгадаваў бараду.

Тыдзень праходзіць — не чапаюць. Нарэшце, у панядзелак дзве кабеты мяне проста пад рукі — хоп!

— Ну вось, — кажуць, — і сустрэліся. Абяцаў крышталь дастаць, а дзе ён? Гані назад грошы!

Ледзь адбіўся. На таксі ўцёк. Прыехаў дамоў. Зачыніўся ў ваннай. Збрыў бараду, пагаліў галаву. Жонка — у непрытомнасці. Цешча за хуткай дапамогай пабегла. „Усё! — думаю. — Скончылася маё небяспечнае падабенства"! І што б вы думалі? На другі дзень, раніцай заціскае мяне за газетны кіёск здараўенны мужчына.

— Грошы, — шыпіць, — за ўладкаванне маёй дачкі ў інстытут узяў? А чаму яе прозвішча ў спісе прынятых не бачу?

Як ад яго вырваўся, сам не ведаю.

Гляджу зараз у люстэрка і калачуся. „Што, — думаю, — рабіць? Зноў у другі горад пераязджаць ці, можа, на пластычную аперацыю пагаджацца?"

Пайду лепш у адпаведныя органы. Няхай яны па майму партрэтнаму падабенству ўсіх гэтых хабарнікаў пераловяць.

**В. Гілевіч**



*У задрыпкухні.*

# НІЎКА



— *Божа, няўжо ў тэлевізары мышы завяліся?*

## ТРЫМАЙЦЕ ВУХА?

*Каму прысвячаецца-той здагадаецца*

### КРЫТЫКАН

Сустрэў знаёмага аднойчы.
— Ну, як жыццё? Ну, як работа?
Ён, закаціўшы ў неба вочы,
Пачаў мне скардзіцца ахвотна.
— Навошта сонца так пячэ?
Ракою тлушч з мяне цячэ...
Альбо з хмарынкі золкі душ?
Зусім размякне капялюш...
І жонка мне не дагаджае —
Адных дзяўчат на зло раджае.
Настрой мой сапсаваўся з рання.
Бо праглынуў залішні дранік.
А на рабоце — што за людзі!
Па розных дробязях валтузяць.
То так зрабі, то раптам гэтак.
Злуюцца, быццам канец свету.
А самі, бачыш маё вока,
І лайдакі, і абібокі.
...Каб дыхаць стала мне лягчэй,
Я развітаўся з ім хутчэй.
Жыве такі во чалавеча,
Ад тлушчу бэсціцца і енча.
Усё б на свеце папракаў.
Не чалавек, а крытыкан!

**У. Багдановіч**

### МАСТАК

Мастак да свайго калегі:
— У мяне непрыемнасць: дама, якая заказала мне свой партрэт, патрабуе, каб я змяніў колер яе вачэй.
— Ну ў чым жа справа?
— Не помню, у якім месцы я іх нарысаваў.



— *Шкада капялюша...*



**...Знайшла сваё месца ў жыцці — села на шыю бацькоў.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У Габраве даўным-даўно ўстаноўлены гадзіннік з боем, які дакладна адлічвае час і сваім меладычным перазвонам раніцой заве гараджан на работу. Але вось не так даўно ў горадзе з'явіўся другі вежавы гадзіннік. Гарадскі архітэктар зайшоў да старшыні гарадскога Савета і спытаў:

— Навошта спатрэбіўся другі гадзіннік? Гэта ж зусім не ў духу габраўцаў. Вы ж ведаеце, што раней яны нанач нават спынялі гадзіннік, каб дарма не зношваўся механізм.

— Эх, дарагі дружа, мала чаго было раней, — адказаў старшыня. — А цяпер я не хачу слухаць ад сваіх спазняючыхся на службу супрацоўнікаў адгаворак, што яны, маўляў, не пачулі бою гадзінніка. Цяпер ім на гэта спасылацца будзе ўжо цяжка: калі ты прапусціў міма вушэй сігналы аднаго гадзінніка, дык другія пачуеш абавязкова...



*Без слоў.*

### ЛАЙДАКЕВІЧ

— Кастусь, я ў страшным становішчы: мне тэрмінова патрэбны грошы, а ў мяне няма найменшага ўяўлення, дзе я магу іх раздабыць.

— Вельмі рад! — не разгубіўся Кастусь. — А то я спужаўся, што ты вырашыў пазычыць іх у мяне.

## ГУМАР З БАРАДОЮ

### АБЕД

Госць паклікаў маленькага Міколку і кажа:

— Спытай у мамы, калі мы будзем абедаць.

— Я ўжо пытаў. Яна сказала, калі вы пойдзеце.



— *Чаго ў спорце не бывае!*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе дзяўчат са Спічак змяшчаем песню*

## DO ZAKOCHANIA JEDEN KROK

**Słowa: Andrzej Bianusz**
**Muzyka: Antoni Kopff**

Mijają dni, miesiące, mija rok,
prawdziwe życie mija nas o krok,
i z tym nam dobrze jest, i nie jest,
i niby nic nie dzieje się.
Świat nam nie wadzi, lecz przez cały czas
coś się gromadzi, coś dojrzewa w nas,
co było ledwie nutką rzewną,
zmienia się w pewność tego, że:

Do zakochania jeden krok,
jeden, jedyny krok, nic więcej,
do zakochania jeden krok,
trzeba go zrobić jak najprędzej.
Dopóki się zapala wzrok,
dopóki się splatają ręce,
dopóki kusi nocy mrok,
do zakochania jeden krok,
do zakochania jeden krok.

A potem znowu codzienności kurz
i zakochanie też za tobą już,
i znów to jedno masz ze świata,
niezmienną pewność własnych wad.
A potem braku zdarzeń znów masz dość
i znów się zamiast marzeń zjawia ktoś,
ma imię, adres, kolor włosów
i już nie sposób oprzeć się.

Do zakochania jeden krok...

### У РЭСТАРАНЕ

— Афіцыянт, чаму кава не салодкая?
— Відаць, вы размешвалі цукар не ў той бок.

### У ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

— Доктар, што вы параіце мне ад бяссонніцы?
— Выпіце перад сном шклянку малака і з'ядзіце працерты яблык.
— Дазвольце, доктар, але роўна шэсць месяцаў назад вы забаранілі мне наогул есці перад сном!
— Так, але вы забываеце, што за гэты час медыцына зрабіла гіганцкі крок наперад.

## КУРЁЗЫ

### З ПАЎЗАБЫТАГА

Пры нейкай нагодзе кароль спытаў Мальера, ці задаволены ён сваім хатнім лекарам.

— Чаму б не? — адказаў Мальер. — Мы часта гутарым пра ўсякую ўсячыну, ён прыпісвае мне лекі, я не прымаю іх, і заўсёды здаровы.

### КАМЕННЫ ЗААПАРК

Мястэчка Нальжоўске-Горы ў Заходняй Чэхіі можа не турбавацца за сваю флору і фауну: мясцовыя лясы — пад надзейнай ахоўай. Паміж дрэвамі ў ваколіцах гарадка прытаіліся гіганцкія зубастыя пачвары, здараненныя мядзведзі і нават буйныя памераў чарапахі ў агрэсіўным выглядзе. Толькі — каменныя... Больш 125 год назад тутэйшыя майстры выразалі гэтых волатаў, каб яны ахоўвалі мясцовую прыроду ад злых духаў.



Лютыя вартаўнікі дасканала спраўляюцца з пастаўленай задачай: злыя духі сюды і носа не паказваюць. Затое перад турыстамі „ахова" бяссільная. Сотні людзей з усіх канцоў Чэхаславакіі прыязджаюць у Нальжоўске-Горы. І гэта зразумела: усім хочацца паглядзець „каменны заапарк".




**Не маўчы, а то падумаюць, што табе ёсць што сказаць...**